*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 20 (1483) 13 ТРАЎНЯ 2020 г.

## МУЖНА і ГОДНА










9 траўня ў Менску прайшоў парад да 75-х угодкаў заканчэння Другой сусветнай вайны. Святкаванні і масавыя акцыі да Дня перамогі адбыліся і ў іншых гарадах Беларусі, нягледзячы на пандэмію каронавіруса. Акрамя Менска парад 9 траўня прайшоў яшчэ ў Ашхабадзе - сталіцы Туркменіі.

Мінабароны Беларусі паведаміла пра ўдзел у парадзе 4000 вайскоўцаў, 185 адзінак тэхнікі, тракавай і колавай. Агульная даўжыня параднай калоны склала 2 кіламетры. Над Менскам праляцела баявая авіяцыя ў складзе 42 паветраных караблёў.

Трыбуны для гледачоў былі разлічаны на 11 тысяч чалавек, яны былі амаль цалкам запоўненыя. Людзі стаялі і на вуліцах. Вельмі мала людзей было ў масках. Менская міліцыя падрыхтавалася да наплыву наведнікаў, для якіх былі створаны 167 пунктаў пропуску. Гарвыканкам падрыхтаваў план іншых імпрэзаў.

У парадзе ўдзельчаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які выступіў з прамовай, іншыя высокія чыноўнікі.

Прыйшлі на парад і многія ветэраны, нават нягледзячы на тое, што іх афіцыйна прасілі застацца дома, прыйшлі, як некалі хадзілі ў атаку.

Запрашэнне наведаць парад Перамогі ў цэнтры Менска прынялі 18 замежных амбасадараў, якія працуюць у Беларусі, распавялі Tut.by у МЗС. Гэта амбасадары ААЭ, Азербайджана, Арменіі, Венгрыі, Венесуэлы, В'етнама, Ірана, КНДР, Казахстана, Кітая, Кіргізстана, Малдовы, Палестыны, Расеі, Славакіі, Турцыі, Таджыкістана, Сербіі.

Як заўжды ў такіх выпадках, у канцы выступіла рота ганаровай варты. Завяршылі парад шэсцем фізкулькурнікаў і песняй "Дзень перамогі".

*Паводле Радыё Свабода.*


9 772073 703003


20020

## 18 траўня 2020 года спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння першага Папы-славяніна Яна Паўла ІІ



Так здарылася ў маім жыцці, што толькі на 48 годзе я быў ахрышчаны ў Магілёўскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Бялыніцкай. Святы сакрамант 24 чэрвеня 2001 года здзейсніў святар Пётр (Анры) Мартэн і ў гэты ж дзень, разам з іншымі магілёўскімі вернікамі, я адправіўся ў пілігрымку на сустрэчу з Янам Паўлам ІІ у Кіеў.

У гэтыя дні па запрашэнні прэзідэнта Леаніда Кучмы і кіраўніцтва Грэка-каталіцкай і Рыма-каталіцкай цэркваў гэтай краіны на Украіну з візітам прыбыў Папа Рымскі Ян Павел ІІ. Падзея была не толькі вельмі значная для жыхароў Украіны, а таксама і для іншых краін былога Савецкага Саюза, кожная з якіх распачала свой шлях да станаўлення самастойнасці і незалежнасці.




Ян Павел ІІ правёў на Украіне пяць дзён - наведаў сталічны Кіеў і Львоў, як цэнтр Украінскай Грэка-каталіцкай царквы. У Кіеве ён наведаў Аскольдаву магілу, дзе знаходзіцца помнік князю Уладзіміру і прамовіў малітву. Пабываў у Бабіным Яры каля мемарыяла памяці ахвярам Другой сусветнай вайны. Таксама Святы Ойча правёў перамовы з тагачасным прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.

Потым на аэрадроме Чайка адбыліся дзве літургіі ў лацінскім і візантыйскім абрадах. Наша магілёўская групоўка дапоўніла агульную беларускую дэлегацыю, і мы разам арганізавана рушылі да месца, якое была прызначана для Беларусі. Побач знаходзілія сектары з пілігрымамі з Казахстана і Славакіі.

Святочная літургія была арганізавана вельмі ўрачыста і прыгожа. Была пабудавана спецыяльная пляцоўка для алтара, пляцоўкі для шматлікіх удзелькаў святочнага мерапрыемства. На асобнай пляцоўцы знаходзіліся ганаровыя госці і шматлюдны хор і аркестр. Пасля музычнага праслаўлення распачалася Святая Імша, якую ўзначаліў Ян Павел ІІ.

Асабіста мяне вельмі ўразіла ўрачыстасць, якая прысутнічала сярод усіх прысутных. Але найбольш кранула тое, што Вялікі хрысціянін звярнуўся да прысутных на іх родных мовах. І калі загучала наша беларуская, над нашым сектарам міжвольна загучалі радасныя і ўзнёслыя воклічы ўдзячнасці, якія напаўнялі нашыя сэрцы захапленнем і гонарам за наш беларускі народ. Другі раз сярод прысутных беларусаў нешта падобнае адбылося калі Папамабіль з Янам Паўлам ІІ па заканчэнні літургіі праязджаў побач з нашай пляцоўкай.

З прамовы пантыфіка асабліва хачу ўзгадаць яго словы: "Жыццё хрысціяніна - гэта жыццё ў бурлівым моры. А компасам для яго, каб абавязкова дайсці да мэты, ёсць дзесяць Божых запавядзей. Калі мы не будзем прытрымлівацца компаса, СВАБОДЫ і ГОДНАСЦІ нам не ўбачыць".

*Алесь Грудзіна,*
*Шклоўская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны.*

# Знойдзеныя дакументы праліваюць святло на гісторыю Жыровіцкага манастыра

Сёлета святкуецца 500-годдзе заснавання Жыровіцкага манастыра і 550-годдзе цудоўнага з'яўлення Жыровіцкага абраза Багародзіцы. На канец траўня былі запланаваны шматлікія юбілейныя мерапрыемствы.

Гэта маляўнічая мясціна сотні гадоў прыцягвала паломнікаў, якія прагнулі чысціні духу, умацавання ў маральных і годных учынках, шукалі мудрай парады празарлівых інакаў, вырашэння набалелых пытанняў, аздараўлення і выратавання з небяспекі. Радуе, што, дзякуючы пільнай працы даследчыкаў, за апошняе дзесяцігоддзе ў інфармацыйнай прасторы пашырылася колькасць звестак і фактаў пра гісторыю манастыра.

Паводле падання, цудоўным чынам у лесе пастухам з'явіўся абраз Маці Божай, названы Жыровіцкім. Царкоўная традыцыя адносіць з'яўленне абраза да 1470 года, такая датыроўка ўпершыню зафіксавана ў публікацыі 1721 года каноніка Ісідора Нардзі ў перакладзе на польскую мову (Nardi I. Relazya historyczna o zjawieniu obrazu Najsw Panny Zyrowickiej pod rzadem Bened. Suprasl, 1728), зафіксавана ў некаторых выданнях XIX-XX ст.

Пра існаванне храма ў Жыровічах, пабудаванага Іванам Солтанам сведчыць копія дакумента 1516 г., які захоўваецца ў архіве Літоўскай метрыкі (АЗР. 1848. Т. 3: [1544-1587]. С. 252).

*"Магчыма, невялікі праваслаўны манастыр пры Жыровіцкай царкве існаваў ужо пры надворным маршалку літоўскім Іване Аляксандравічы Солтане († к. 1577)"*, - зрабіў выснову кандыдат мастацтвазнаўства Аляксандр Ярашэвіч.

Згодна з паданнем іераманаха Феадосія праз некаторы час пасля пабудовы драўляная царква згарэла, а абраз знік. Але з хуткі часе, (як мяркуюць, гэта адбывалося ў 1520 годзе) цудоўны абраз быў знойдзены на камені непашкоджаным. Гэты камень, які валодае цалебнымі якасцямі, знаходзіўся ў алтары царквы ў гонар з'яўлення Жыровіцкага абраза Божай Маці, пабудаванай ў 1672 годзе.

У 1613 годзе манастыр перайшоў у рукі базыльянаў (манахаў грэка-каталіцкай Царквы), якія адрадзілі культ Маці Божай і зрабілі манастыр галоўным цэнтрам Уніі. Першым ігуменам манастыра ў часы Уніі быў Іасафат Кунцэвіч.

Дзякуючы цудатворнаму абразу і шчодрасці дабрачынцаў Жыровіцкі манастыр стаў буйнейшым цэнтрам духоўнага жыцця і паломніцтваў вернікаў. Тут шмат разоў адбываліся генеральныя капітулы ордэна базыльянаў (1629, 1658, 1659, 1661, 1675, 1679, 1694).

Намаганнямі базыльянаў за часы Уніі быў пабудаваны вялікі манастырскі комплекс з мураваных храмаў барочнай архітэктуры. У 1730 г. у прысутнасці дзясяткаў тысяч католікаў візантыйскага і лацінскага абраду, а таксама іншых вернікаў цудатворны абраз Маці Божай з Жыровіцкага манастыра быў урачыста каранаваны залатымі папскімі каронамі, а Маці Божая Жыровіцкая абвешчана апякункай і заступніцай беларускага народа.

У 1810-1828 гадах манастыр быў рэзідэнцыяй Берасцейскай уніяцкай епархіі, у 1828-1839 гадах - Літоўскай уніяцкай епархіі. У 1839 г. Іосіф Сямашка, карыстаючыся падтрымкай царскай улады і заступніцтвам імператара Мікалая І, перавёў частку манахаў Жыровіцкага манастыра ў праваслаўе, а ўпартых адправіў на выпраўленне ў спецыяльна прызначаныя для гэтых мэтаў манастыры, у тым ліку па-за межамі Беларусі.

Дзякуючы таму, што да верасня 1939 года Жыровічы не ўваходзілі ў склад СССР, манастыр ніколі не закрываўся. У міжваенны час манастырскі храм-Кальварыя (царква Узвышэння Святога Крыжа) знахозіўся ў карыстанні рыма-католікаў.





У 1945 г. у Жыровіцкім манастыры былі адкрыты пастырскія курсы, якія ў 1947 годзе былі ператвораны ў семінарыю. Але ж семінарыя праіснавала толькі да 1963 г. У другой палове 1980-х - пачатку 1990-х гадоў пачалося адраджэнне манастыра.

У 1989 годзе пасля 26-гадовага перапынку, аднавіла працу Менская духоўная семінарыя. У 1991 і 2002 гадах абіцель наведваў маскоўскі патрыярх Алексій II. У цяперашні час манастыр прыцягвае да сябе шмат пілігрымаў і турыстаў.

Пра ўнікальныя дакументы, якія праліваюць святло на гісторыю Жыровіцкага абраза і манастыра паведаміў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі спадар Алесь Суша.

- Адно з самых важных і вядомых (але ў рэчаіснасці мала кім бачаных) дакументальных сведчанняў з гісторыі Жыровіцкага манастыра - знакамітае Жыровіцкае Евангелле, якое яшчэ называюць Евангеллем Сапегі. Так яно называецца, бо ў кнізе маецца ўкладны ўласнаручны запіс канцлера Льва Сапегі - асобы надзвычай добра вядомай у нашай гісторыі



Да нашых дзён захаваліся арыгінальныя кнігі цудаў, якія адбываліся ля Жыровіцкага абраза Багародзіцы, запісаныя яшчэ ў XVII-XVIII стагоддзях.

Найбольш старажытная і каштоўная з іх была складзена ў пачатку XVII стагоддзя непасрэдна ацалелымі і ўратаванымі людзьмі, якія засведчылі пра тыя цуды, што адбыліся з імі ці з іх блізкімі. Апісанне цудаў складае асноўную частку вялікай рукапіснай кнігі. Апісанні зроблены як па-беларуску, так і па-польску. Калі першыя цуды (за 1558-1619 гг.) былі запісаны адным упэўненым почыркам пісца, то далейшыя запісваліся рознымі людзьмі - рознымі почыркамі і на розных мовах. Сярод людзей, з якімі адбываліся цуды, былі прадстаўнікі розных сацыяльных станаў, у тым ліку вядомыя дзяржаўныя і царкоўныя дзеячы.

Падобныя спісы вяліся ля найбольш важных святыняў, якія славіліся сваёй цудадзейнай сілай. Яны сведчылі пра выратаванне ад цяжкіх хвароб, загойванне невылечных ран пасля малебных зваротаў да Божай Маці, Ісуса Хрыста і святых і з'яўляюцца адлюстраваннем характару рэлігійнага жыцця ў Беларусі. Дзякуючы падрабязнай фіксацыі слава пра Жыровіцкі абраз разляцелася далёка за межамі Беларусі. Ужо ў XVII і ў XVIII стагоддзях свет пабачыла некалькі выданняў, якія ўключалі апісанні цудаў, у тым ліку на замежных мовах, - паведаміў А.А. Суша.





Нядаўна адразу некалькі выданняў, прысвечаных святой мясціне, пабачылі свет: энцыклапедычны даведнік "Жыровічы: пад святым пакровам" выйшаў у "Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі".

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" раскрыла тэму пасвойму - праз кнігу паэзіі "Святло з Жыровіч". Яе аўтар, чалавек надзвычай цікавага і пакручастага лёсу, - сын вядомага скульптара, былы выкладчык музыкі, філосаф, публіцыст Алег Бембель, ён жа паэт Зніч, які ўжо шмат гадоў непарыўна звязаны са святым месцам. Ён прайшоў шлях ад смяротна хворага паслушніка Алега да інака Мікалая і манаха Іаана, насельніка Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра, і з цягам часу менавіта вера стала адным з асноўных матываў яго творчасці.

Кніга вядомага беларускага мастацтвазнаўца, музейшчыка Аляксандра Ярашэвіча "Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр" ужо выходзіла ў выдавецтве "Беларусь" больш за 10 гадоў таму. Але сёлета яна была практычна цалкам абноўлена і перавыдадзена. Аўтар абапіраўся на навуковыя факты і даследаванні, але пры гэтым сцісла, ёміста і даступна для самага шырокага кола чытачоў распавёў гісторыю Жыровіцкага манастыра з часу заснавання да нашых дзён. Гэты аповед на трох мовах - беларускай, рускай і англійскай - маляўніча аформлены ў падарункавым выданні. 15 траўня ў фармаце on-line канферэнцыі адбудуцца XVI Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні, прысвечаныя 500-годдзю заснавання Жыровіцкага манастыра.

*Падрыхтавала*
***Эла Дзвінская.***



1. Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр і цудатворны абраз.

2. Фрагмент гістарычнага дакумента.

3. Жыровіцкае Евангелле.





# Фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці вучнёўскай моладзі

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Значна меншую каштоўнасць для студэнтаў уяўляе каталіцкае вызнанне (34,9% першакурснікаў і 52,2% пяцікурснікаў прызнаюць станоўчую ролю каталіцызму). Тэндэнцыйнае ўспрыняцце каталіцызму як ворага славянства, ворага навукі і нацыянальнай культуры ў савецкай гістарычнай свядомасці непазбежна адбілася на рэспандэнцкай ацэнцы. (Таксама трэба ўлічваць, што студэнты гомельскага рэгіёна карыстаюцца пераважна культурным вобразам, стэрэатыпам у адносінах да каталіцкай царквы, не маючы практыкі кантактаў з яе дзейнасцю). 34,9% першакурснікаў і 28,3% пяцікурснікаў не змаглі вызначыць ролю рыма-каталіцкай царквы ў XVII стагоддзі. Інакш выглядае сітуацыя з грэка-каталіцызмам (уніяцтвам). Недасведчанасць першакурснікаў (51,2%) у грамадскай ролі ўніяцтва на Беларусі замяняецца станоўчай ацэнкай (60,9%) на пятым курсе. Пэўная інфармацыя, звязаная перш за ўсё з вытлумачэннем патрыятычнай ролі ўніяцтва ў захаванні мовы і звычаяў беларусаў, садзейнічала фарміраванню ў працэсе навучання пазітыўнай гістарычнай каштоўнасці. Рэфармацыя на Беларусі, увогуле высока ацэненая студэнтамі (71,7% пяцікурснікаў), не падаецца апытанымі адназначна як фактар яе навуковага і культурнага развіцця, напэўна, з-за недахопу ў навучанні канкрэтных звестак (не могуць адказаць 48,8% першакурснікаў і 28,2% пяцікурснікаў). Увогуле, ідэя найноўшай гісторыяграфіі аб гарманізацыі грамадства Рэчы Паспалітай шляхам культурнага ўздзеяння ўсіх рэлігійных плыняў і напрамкаў не знаходзіць пакуль эмпірычнай падтрымкі ў гістарычнай аўдыторыі, хаця гомельскія выкладчыкі менавіта аднолькава ацанілі грамадскія ролі ўсіх вызнанняў (85,7%). Станоўчая ацэнка дзейнасці рэлігійных плыняў на Беларусі пакуль слаба падмацаваная гістарычнымі ведамі. Большасць апытаных не можа вызначыць гістарычную ролю А. Шаптыцкага, М. Сматрыцкага, П. Скаргі, Я. Кунцэвіча - вядомых рэлігійных дзеячаў усходнеславянскага рэгіёна.

Цікавыя вынікі дае аналіз рэспандэнцкага стаўлення да цывілізацыйнага гістарычнага падыходу ў дачыненні да Беларусі. Уяўленне ад падвойным характары беларускай культуры: алначасова "ўсходнім" і "заходнім" - прымаецца большасцю апытаных. Калі ідэнтыфікацыя цывілізацыйнага тыпу Беларусі як "заходнееўрапейскага" адбываецца ў 72,1% і 76,1% ад груп студэнтаў, то "візантыйска-ўсходні" тып прыпісвае Беларусі толькі 46,5% першакурснікаў і 67,4% пяцікурснікаў. Лёгкасць "заходняй ідэнтыфікацыі" можа быць патлумачана як наяўнасцю гістарычных (і паўсядзённых) ведаў аб Захадзе, так і свядомым наданнем прыярытэту заходнім каштоўнасцям, прызнаннем неад'емнасці гісторыі Беларусі ад Еўропы. (Ідэнтыфікацыйная розніца захоўваецца і ў выкладчыкаў - 100% і 85%).

Адной з найбольш адметных рыс функцыянавання гістарычнай свядомасці ўяўляецца працэс персаніфікацыі гісторыі. Зцольнасць рэспандэнтаў у нашым даследаванні вызначыць нацыянальных герояў можа сведчыць аб узроўні нацыянальнай свадомасці і моцы культурнай сувязі асобы з нацыяй. Сярод найчасцей называных студэнтамі дзеячоў Беларусі - Францішак Скарына (85,4% апытаных), Кастусь Каліноўскі (36%), Ефрасіння Полацкая (33,7%), Вітаўт (30,4%), Мікола Гусоўскі (24,7%), Янка Купала (19,1%), Пётр Машэраў (18%), Максім Багдановіч (13,5%), Леў Сапега (12,4%), Якуб Колас (10,1%). Пададзеныя асобы прадстаўляюць розныя гістарычныя перыяды (Сярэднявечную, "Адраджэнцкую", Новую і Навейшую эпохі), дэманструючы свядомаснае пазбаўленне ад дэфармацыі "да" і "пасля" кастрычніцкай гісторыі. Большасць названых асоб не прадстаўляе "гераічную", сацыяльна-палітычную гісторыю Беларусі, але гісторыю яе культуры, духу. Скарына, Гусоўскі, Купала, Багдановіч, Колас, Ефрасіння - геніі беларускага, духу, якія сцвярджалі нацыянальную саматоеснасць беларусаў розных сгагоддзяў, што ў нашай гісторыі падаецца падзвіжніцтвам. З другога боку, Вітаўт, Каліноўскі - як нацыянальныя сімвалы маюць яркія рысы герояў, змагароў за Радзіму, што адстойвалі палітычную самастойнасць нашых продкаў. Леў Сапега выступае ў гэтым кантэксце сімвалам дзяржаўнай і сацыяльнай стабільнасці, гарантам правасуддзя (як складальнік Статута 1588 г.), Пётр Машэраў, які ў шэрагу гістарычных постацяў прадстаўляе XX стагоддзе, сімвалізуе для многіх беларусаў разумнага і годнага дзяржаўнага мужа. Калі Скарына і Каліноўскі папулярныя аднолькава ва ўсіх групах апытаных, то Ефрасінню Полацкую і Міколу Гусоўскага больш цэняць першакурснікі (42% і 48,8% супраць 26,1% і 2,2% на пятым курсе). Першакурснікі вылучаюць з ліку беларускіх дзеячоў класікаў айчыннай літаратуры Янку Купалу (25,6% супраць 10,9% на 5 курсе) і Якуба Коласа (18,6% супраць 2,2%). У той жа час пяцікурснікі дэкляруюць сваю прыхільнасць да П. Машэрава (78,3% студэнтаў-выпускнікоў адзначаюць яго станоўчую ролю ў гісторыі і толькі 41,9% першакурснікаў). Устойлівасць папулярнасці вылучаных персанажаў падмацаваная і аналагічнымі дадзенымі ў групе выкладчыкаў (Скарына, Каліноўскі, Купала, Колас, Л. Сапега, П. Машэраў).

Успрыняцце айчыннай гісторыі праз прызму дзяржаўнага і культурнага самасцвярджэння беларусаў дэманструецца рэспандэнтамі пры вызначэнні найвялікшых падзей у гісторыі Беларусі. Так, 24,7% студэнтаў вылучылі як такую падзею "ўтварэнне Рэспублікі Беларусь", 21,4% студэнтаў - "утварэнне Вялікага Княства Літоўскага", 13,5% студэнтаў - "утварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі". З найбольш важкіх культурна-гістарычных здабыткаў беларусаў рэспандэнты пазначылі кнігадрук (11,2%) і Статуты Вялікага Княства Літоўскага (9%).

Спісу найпапулярнейшых беларускіх дзеячоў адпавядае, вынікаючы з адказаў апытаных, група гістарычных асоб з нададзенай ім негатыўнай роляй для нацыянальнай гісторыі. Гэта Сталін (61% апытаных), Ленін (27%), Гітлер (18%), Кацярына II (7%), Брэжнеў і Берыя (па 6,2%).

Найбольш частыя негатыўныя ацэнкі падзей у нацыянальнай гісторыі тычацца Другой Сусветнай вайны (31,5%), рэвалюцыі 1917 года (16,9%), аварыі на Чарнобыльскай АЭС (13,5%). Таксама студэнты адзначаюць адмоўную ролю ў беларускай гісторыі фашызму (18%), сталінізму (15,7%), камунізму (14,6%). Усе ацэнкі ахопліваюць гістарычны працэс XX стагоддзя і прывязаныя перш за ўсё да нямецкай акупацыі Беларусі і палітычнай практыкі Савецкай дзяржавы. Увогуле, большасць апытаных студэнтаў адмоўна ставіцца да палітычна навязанай ідэалогіі (53,5% першакурснікаў і 57,4% пяцікурснікаў адмаўляюць у станоўчай ролі сацыялізму), у той час, як выкладчыкі застаюцца ў гэтым пытанні няпэўнымі (57,1% не можа вызначыць ролю сацыялізму), адмаўляючы перш за ўсё пэўныя палітычныя практыкі (сталінізм, бальшавізм). Тым не менш, большасць апытаных не ўхваляе і распаду СССР, звязваючы з ім, напэўна, пагрозу для палітычнай і эканамічнай стабільнасці краіны.

Спектр ацэнак падзей айчыннай і сусветнай гісторыі, прапанаваны рэспандэнтамі, дазваляе меркаваць аб пэўнай сістэме каштоўнасцей, уласцівай гісторыкам. Так, большасць апытаных станоўча ацэньвае магдэбургскае правы, адмену прыгону, раўнапраўе жанчын, аддаючы тым самым перавагу ўсталяванню ў гісторыі правоў чалавека (эканамічных, палітычных, асабістых). Зацікаўленасць у нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці праяўляецца ў станоўчых ацэнках бітвы пад Грунвальдам, Люблінскай уніі 1569 г., у адмоўнай ацэнцы падзелаў Рэчы Паспалітай (58,1% перша- і 47,8% пяцікурснікаў).

Большасць апытаных ухваляе дзейнасць Беларускага Народнага Фронту (60,5% першакурснікаў, 52,2% пяцікурснікаў), не ўхваляе існаванне калгасаў (адпаведна 60,5% і 54,4% студэнтаў).

Аналіз сучаснага стану беларускай гістарычнай свядомасці, праведзены на матэрыяле адказаў гісторыкаў (навучэнцаў і выкладчыкаў) Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, дае падставы меркаваць аб значных зрухах у напрамку набыцця ёй сапраўды нацыянальнага, аб'ядноўваючага і арганічнага характару. Перавага гуманітарных і нацыянальных каштоўнасцей у светапоглядзе, цікавасць да айчыннай гісторыі і адносна добрае яе веданне - усё гэта сведчыць на карысць новага разумення гістарычнага працэсу і пабудовы нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі. Як вынікае з аналізу, гістарычная свядомасць гомельскіх гісторыкаў знаходзіцца яшчэ толькі на шляху да такой канцэпцыі, шмат у чым не пазбаўленая яшчэ няпэўнасці, а то і кансерватызму палітычнага кшталту. Шмат якія канцэптуальныя ідэі новай гісторыяграфіі яшчэ не адбіліся ў свядомасці навучэнцаў (як і іх выкладчыкаў), пэўныя прыярытэты, вызначаныя ў апытаных, падаюцца нам пакінутымі ў спадчыну савецкай гістарычнай ідэалогіяй. Аб кансерватызме фарміравання гістарычнай свяломасці гомельскіх студэнтаў сведчыць і адсутнасць сталых разыходжанняў у ацэнках, зробленых першым і пятым курсамі, якія пачыналі сваё навучанне ў розных дзяржаўна-палітычных умовах. Тым не менш, адказы рэспандэнтаў гавораць аб відавочнай дынаміцы гістарычнага разумення ў бок стварэння новага, уласна беларускага навуковага і грамадскага светапогляду.

### § 3. Гістарычны шлях Беларусі (Вынікі даследавання ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце)

Сёння ў Рэспубліцы Беларусь назіраецца цікавасць яе жыхароў да сваёй гісторыі, да ўжо вядомых гістарычных фактаў, і, асабліва, да яшчэ невядомых фактаў і падзей. Гэта і зразумела, паколькі з'яўляецца аксіёмай тое, што народы звяртаюцца да гісторыі часцей тады, калі перад грамадствам узнікаюць новыя задачы. А перад грамадзянамі Рэспублікі Беларусь сёння стаіць сапраўды грандыёзная задача: пабудаваць дэмакратычную, незалежную, суверэнную дзяржаву.

Цікавасць у беларускага народа да сваёй гісторыі выклікана таксама крызісам як гістарычнай, так і нацыянальнай самасвядомасці. А што гэта так, сведчаць вынікі даследавання.

Большасць апытаных пятага курса (86,7%) лічыць, што добра ведае гісторыю Беларусі. Што датычыцца першага курса, то 56,8% сцвярджаюць, што ведаюць яе добра, а 39,2% - што слаба. Большасць выкладчыкаў (75%, 6 чал.) таксама адказалі, што добра ведаюць гісторыю Беларусі.

Добрыя веды гісторыі Беларусі нельга ўявіць без добрых ведаў гісторыі свайго краю, рэгіёна, вобласці. Па-гэтаму студэнты- гісторыкі Гродзенскага ўніверсітэта павінны добра ведаць гісторыю Гродзенскай губерні. У сваю чаргу, немагчыма вывучаць і добра ведаць гісторыю Гродзенскай вобласці без ведаў гісторыі Літвы і Польшчы. Большасць студэнтаў першага курса адказалі, што слаба ведаюць як гісторыю Літвы (54,9%), так і гісторыю Польшчы (52,9%). Большасць рэспандэнтаў пятага курса сцвярджаюць, што добра ведаюць гісторыю Польшчы (60%), і 70% адказалі, што або зусім не ведаюць гісторыю Літвы, або ведаюць яе слаба. Большасць выкладчыкаў адказала так, як і студэнты пятага курса: добра ведаюць гісторыю Польшчы 87,5%, гісторыю Літвы лічаць, што добра ведаюць 50% выкладчыкаў.

Гісторыю Расіі пераважная большасць як студэнтаў (90,2% - першы курс, 91,1% - пяты курс), так і выкладчыкаў (87,5%) ведаюць добра.

Такім чынам, згодна з адказамі рэспандэнтаў, гісторыю Расіі студэнты-гісторыкі ведаюць лепей, чым гісторыю Вялікага Княства Літоўскага.

Здавалася б, студэнты-гісторыкі павінны сёння цікавіцца тым, дзе больш слабыя веды. Гэта значыць, што студэнты Гродзенскага ўніверсітэта павінны больш цікавіцца гісторыяй сённяшніх суседзяў: Літвы і Польшчы, а ў старажытнасці - гісторыяй адзінага народа Вялікага Княства Літоўскага - ліцвінаў. Але ж адказы іншыя. Толькі большасць студэнтаў першага курса аднолькава цікавіцца як гісторыяй Расіі (66,7%), так і гісторыяй Беларусі (66,7%). Студэнты пятага курса ў асноўным цікавяцца гісторыяй Расіі (46,7%), Англіі (40%), Беларусі (37,8%), Польшчы (31,1%). Выкладчыкі таксама цікавяцца гісторыяй Расіі (37,5% - 3 чал.), Германіі (37,5%), ЗША (37,5%). Цікавасці да гісторыі Літвы ў адказах няма.

Такім чынам, як студэнты, так і выкладчыкі згодна з адказамі не толькі добра ведаюць, але ж і цікавяцца гісторыяй Расіі. Што датычыцца ведаў гісторыі Беларусі, то нам здаецца, нельга іх лічыць добрымі без дастатковых ведаў гісторыі Літвы і Польшчы, улічваючы асаблівасць рэгіёна.

Большасць рэспандэнтаў як першага, так і пятага курсаў лічыць, што і Люблінская, і Крэўская уніі мелі станоўчы ўплыў на развіццё гісторыі Беларусі. А гэта - дадатковае сведчанне таго, як многа агульнага ў гісторыі сённяшніх трох незалежных краін: Беларусі, Літвы, Польшчы.

*(Працяг у наступным нумары.)*

## ДЫСТАНЦЫЙНАЯ АКТЫЎНАСЦЬ: ПАСЛУХАЦЬ ЦІШЫНЮ

Грамадскія актывісты з Гарадзеі вырашылі, што адзначыць Дзень Перамогі можна без вялікага натоўпу і гучных прамоў. Што і як было ў гады вайны на фронце, ведае кожны дарослы беларус з успамінаў дзядоў, бацькоў ці блізкіх родзічаў, якія прайшлі баявымі дарогамі. А як жылося пад акупацыяй - ад бабуляў і маці, якія з надзеяй чакалі сваіх з вайны, складвалі за абразы дарагія салдацкія трохкутнічкі. Гэтая сямейная, мясцовая - самая праўдзівая, самая кранальная інфармацыя. З яе і складаецца вялікая панарама агульнанароднага гора і змагання, любові і нянавісці, веры і надзеі. Што новага скажуць з трыбун?

Таму 9 траўня невялікай грамадкай сабраліся ля брацкай магілы, што непадалёк ад чыгункі.

- Ішоў сюды, каб з гэтага пагорка паглядзець на сваю Гарадзею, парадавацца сонечнаму дню, паслухаць цішыню, павітаць знаёмых, - кажа Алег Гунько. Яго сябар і надзейны паплечнік Адам Скачко лічыць, што Свята Перамогі - гэта найперш дзень успамінаў і разваг пра лёсы ваеннага пакалення і наступнікаў. Барыс Шпакоўскі да абеліска "Слава героям " прыйшоў з партрэтам свайго бацькі, каб засведчыць сыноўнюю ўдзячнасць роднаму чалавеку.

Гэтак жа і надалей, кожны сам для сябе, не па абавязку, а па духоўнаму заклiку, плануюць гарадзейцы пабываць на радзіме паэта Уладзіміра Жылкі, наведацца да мемарыяла расстраляным габрэям, прадоўжыць даўнюю акцыю "Клумба памяці ад ТБМ".






Калі сам па сабе, дык больш сумленна і шчыра, лічаць яны, …і каранавірус не возьме.

***Вольга Карчэўская,***
*Нясвіж, ТБМ.*

# Дагледзець магілу ветэрана





Кожны год ТБМ імя Ф. Сарыны горада Магілёва да Міжнароднага дня аховы помнікаў і памятных мясцін ладзіць некалькі мерапрыемстваў: прыбіраем занядбаныя помнікі, праводзім экскурсіі і лекцыі. Сёлета ў сувязі з эпідэміяй нічога з вялікаю грамадою не атрымаецца і таму вырашылі арганізаваць некалькі лакальных акцый. Праз знаёмых даведаліся, што ў Магілёве на могілках у Пашкаве ёсць занядбанае пахаванне ветэрана вайны Малашэнкі Васіля, які родам з Касцюковіцкага раёна.

Дамовіўся з гісторыкам СШ 34 спадарыняй Галінай Бяляевай, што возьмем рыштунак і 26 красавіка пойдзем ў Пашкава. Магілу адразу было цяжка адшукаць, бо могілкі вялікія. Нарэшце ў сектары 11 знайшлі занядбаную магілу, якую суседзі ўжо ператварылі ў сметніцу: нават закінулі ў агароджу стары жалезны помнік.

І туга б нам прыйшлося, каб не сыны Галіны Мікалаеўны: Зміцер і Максім. Вынеслі на сметнік жалеззе, прыбралі граблямі смецце і лісце, пафарбавалі агароджу.

Як прыйшоў дадому, то пазваніў у Касцюковіцкі раённы краязнаўчы музей і папрасіў навесці звесткі па ветэрану Малашэнку В. Д., бо варта паспрабаваць даведацца наконт яго сваякоў і больш дакладнай біяграфіі. Калі сваякоў не засталося, то прыйдзецца браць шэфства...

***Алег Дзьячкоў,*** *Магілёў, ТБМ.*

# *Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў траўні*

Абрамовіч Маргарыта Паўл.
Абухоўскі Юры
Адамковіч Аляксандр Эдмун.
Азарка Вольга Уадзіміраўна
Акуленка Міхаіл
Александровіч Разалія Адам.
Алесіна Таццяна Міхайлаўна
Аляшчэня Мікалай Мікал.
Анапрыенка Ірына
Анішчык Барыс Вітальевіч
Апалька Жанна Віктараўна
Арлоў Валянцін Мікалаевіч
Аскерка Зміцер
Астаховіч Андрэй Казіміравіч
Астроўская Аксана Барысаўна
Аўсейка Канстанцін
Бабіч Юры Міхайлавіч
Багданчык Зміцер Віктаравіч
Бакшун Валянціна
Баланчук Эдуард Мікалаевіч
Баранік Міхась Антонавіч
Баркун Юры Васільевіч
Барадзіч Сямён Дзмітрыевіч
Баронік Міхал Антонавіч
Бароўскі Анатоль Мікалаевіч
Барыс Сымон Вікеньцевіч
Бахун Сяргей Пятровіч
Белавокая Наталля
Бельскі Аляксандр Міхайлавіч
Богуш Святлана Яўгенаўна
Бордак Уладзімір Адамавіч
Боўжык Аляксандр Сцяпан.
Брыцько Уладзімір
Буднік Янка Фёдаравіч
Буз Андрэй Віктаравіч
Буката Людміла Аляксандр.
Буката Надзея Эдвардаўна
Бурдыка Дзмітры Анатольевіч
Бутэнка Зміцер Сямёнавіч
Быкава Надзея Мартынаўна
Быстранкова Таіса Вікенц'еўна
Бяйдук Наталля
Вайцэховіч А.Р.
Валіцкая Іна
Валошчык Мікола Антонавіч
Валчок Ліля
Вараб'ёў Уладзімір Раманавіч
Варонін Улас Канстанцінавіч
Васілеўская Кацярына
Васільева Кацярына
Васільчук Іван Дзмітрыевіч
Ваўчок Крысціна
Вішнеўская Дар'я Дзмітрыеўна
Галубовіч Вольга
Галустаў Эдуард
Ганчарык Марыя Яраславаўна
Гарбачэўскі Васіль
Гаўрыленка Юлія Міхайлаўна
Гладкі Леанід Анатольевіч
Глямбоцкая Рэната Аляксанд.
Гнеўка Анатоль Лявонавіч
Гоўша Уладзімір Міхайлавіч
Грудзіна Аляксандр Пятровіч
Грумо Зміцер
Грышкевіч Кірыла Уладзімір.
Гундар Уладзімір Тадэвуш.
Гуркоў Ігнат Дамінік Алякс.
Гусак Станіслаў Рыгоравіч
Давыдзік Кацярына Канстанц.
Дайлідзёнак Крысціна Васіл.
Даніловіч Раіса
Дзмітрыеў Андрэй Уладзімір.
Дзяконскі Аляксандр Алякс.
Драўніцкая К.М.
Драўніцкі Іван Пятровіч
Дрозд Галіна
Дубейка Ірына Восіпаўна
Дубовік Іосіф Вацлававіч
Думанскі Аляксандр
Жабінская Марыя Пятроўна
Жолуд Эдуард Васільевіч
Жукава Вікторыя Паўлаўна
Жукоўская Таццяна Яўгенаўна
Жураўлёва Таццяна Сяргеўна
Жураўскі Уладзімір Мікал.
Жылач Таццяна Міхайлаўна
Зайцаў Андрэй Мікалаевіч
Іванова Анфіса Міхайлаўна
Іода Тамара Мікалаеўна
Ісайкіна Вольга Юр'еўна
Кабылка Віталь
Кавалавіч Мікалай Антонавіч
Кавалёў Станіслаў Аляксандр.
Кавальчук Галіна Тадэвуш.
Кавальчук Ігар Аляксандравіч
Кавальчук Часлаў Францавіч
Казакевіч Юры Іосіфавіч
Калакольцава Аліна
Калацкая Вольга
Калеснікава Алена Уладзімір.
Калінін Вальдэмар
Каляда Ніна Фёдараўна
Камандзірчык Алесь Аляксан.
Камко Наталля Юр'еўна
Кампанеец Святлана Юр'еўна
Кандракоў Міхаіл Валер'евіч
Кандратовіч Ігар
Кандратовіч Ян Янавіч
Кандрацьеў Андрэй Васільевіч
Карабач Алег Віктаравіч
Карнееў Віктар Васільевіч
Карнілава Наталля Яўгенаўна
Кароль Маргарыта Міхайл.
Карпінская Юлія
Карповіч Андрэй Іванавіч
Карцель Настасся
Касавец Іван Язэпавіч
Касцюк Георг Васільевіч
Касцюкевіч Зміцер Станіслав.
Каўлярова Т. М.
Клуйша Яніна Іосіфаўна
Кляшторная Майя Тодараўна
Корзан Сцяпан Уладзіміравіч
Корзан Уладзімір Сцяпанавіч
Корзан Яніна Браніславаўна
Кот Алена
Коўган Сяргей Яўгенавіч
Кравец Дзмітры Юр'евіч
Красоўская Ганна Казіміраўна
Крук Віктар Фёдаравіч
Круцікаў Уладзімір Уладзім.
Кручкоў Сяргей Мікалаевіч
Кудзякін Віталь Пятровіч
Кудрашоў Віктар
Кузьміч Таццяна Адамаўна
Кульбянкова Іна
Лабачоў Яўген Дзмітрыевіч
Лагун Вольга Эдвардаўна
Лапо Аляксандр Іванавіч
Латоцін Лявон Алякандравіч
Лаўранцова Алена Уладзімір.
Лебедзева Наталля Мікалаеўна
Леўчанкаў Васіль Мікалаевіч
Леўшык Станіслаў Станіслав.
Лук'янцаў Кірыла
Лытнёў Міхаіл
Люмарова Галіна Сяргееўна
Ляскоўская Зоя Нікіфараўна
Майсеня Людміла Іосіфаўна
Макарскі Андрэй Георгіевіч
Макарчык Уладзімір
Макрыцкая Таццяна Міхайл.
Максімчук Раман Уладзімір.
Малашчанка Таццяна Сярг.
Маліноўскі Яўген Лявонцьевіч
Малышава Галіна
Малько Пётр Іванавіч
Мальцава Ганна Валянцінаўна
Марцінкевіч Яўгенія
Мацвеева Таццяна Генадзеўна
Мацвееў Максім Іванавіч
Мекшыла Мікалай
Мех Аляксандр Васільевіч
Міхно Міхаіл Васільевіч
Міхноўскі Мікалай Уладзім.
Міцкевіч Кастусь
Міцкевіч Яўген Фаміч
Моніч Алесь
Мурашка Людміла Мікал.
Муха Валянцін Станіслававіч
Мяснянкіна Ала Міхайлаўна
Навасельская Таццяна Уладз.
Нагорная Тамара Іванаўна
Нароўская Ала Мікалаеўна
Нарушэвіч Міхаіл Алегавіч
Натынчык Уладзімір Алякс.
Ніжанкоўская Ірына Уладзіс.
Нікіпорчык Віктар
Новікаў Аляксандр Сяргеевіч
Отчык Андрэй
Падгайская Людміла Лаўрэнц.
Палітава Дзіяна Паўлаўна
Панізнік Сяргей Сцяпанавіч
Паплаўская Ірына Станіслав.
Паўлініч Валеры Валерыевіч
Паўловіч Віктар Сяргеевіч
Паўтаржыцкі Канстанцін Бран.
Пашкевіч Ігар
Пералыгін Алесь
Пожанька Ігар Леанідавіч
Пратасавіцкая Марыя Георг.
Праташчык Людміла Віктар.
Праўдзін Віктар Аляксандр.
Пуцікаў Ілля
Пушкін Ігар Аляксандравіч
Пыжык Аляксей
Пясецкая Таццяна Уладзімір.
Пяткевіч Таццяна Віктараўна
Пятрашка Майя
Пятроўскі Віктар Вячаслав.
Рагачоў Юры Усеваладавіч
Радзюк Алена Іванаўна
Радзюк Уладзімір Сяргеевіч
Разумейчык Юры Васільевіч
Рачэўскі Станіслаў Рыгоравіч
Рубанік Таццяна
Руды Аляксей Уладзіміравіч
Руткевіч Вераніка Антонаўна
Рухлова Тамара
Рымша Фаіна Ціханаўна
Сабуць Галіна Эдмундаўна
Савук Аляксандр Юр'евіч
Салаўёў Зміцер Сяргеевіч
Салговіч Вольга Віктараўны
Салодкі Юры Часлававіч
Самасюк Ганна
Самойленка Арцём Сяргеевіч
Серакова Вольга Канстанцін.
Сердзюкова Марыя Васіл.
Сідар Маргарыта
Сідаровіч Яніна Дзмітраўна
Сілкова Раіса Іванаўна
Сільвановіч Станіслаў Алёйз.
Сіўко Франц Іванавіч
Смалянчук Аляксандр Фёдар.
Снітко Вольга Уладзіміраўна
Снітко Галіна Мікалаеўна
Станевіч Тамара Іосіфаўна
Станевіч Юры
Сташэўскі Яўген Адамавіч
Строкач Аляксандр Пятровіч
Стукаў Віктар Якаўлевіч
Сцефановіч Рамуальд
Сяліцкая Рыта
Талкачыкава Кацярына Аляк.
Таневіч Галіна Янаўна
Тарасенка Уладзімір Мікал.
Трахімчык Уладзімір Іванавіч
Тырсін Васіль Анатольевіч
Тышкевіч Галіна Францаўна
Фадзеева Таццяна Мікалаеўна
Харанека Святлана Станісл.
Харланчук Аляксандр Анат.
Хатара Мацвей Леанідавіч
Хвайніцкі Часлаў Сіманавіч
Хітрун Ілья Андрэевіч
Холеў Станіслаў Браніслававіч
Хоміч Генадзь Рыгоравіч
Храмлюк Марыя Іосіфаўна
Цаўлоўскі Канстанцін Дзмітр.
Церпугова Алена Фёдараўна
Цітоў Леанід Сцяпанавіч
Цюрын Аляксей Сяргеевіч
Цялюк Мікалай Алегавіч
Чарнышова Алена Аляксанд.
Чухліб Наталля
Чучвага Наталля Мікалаеўна
Чхаідзэ Георг
Чэчат Віктар Аляксандравіч
Шабуня Ніна
Шавель Вольга Мікалаеўна
Шантар Дзіяна Георгіеўна
Шапуцька Віктар Аляксандр.
Шарах Мікола Аркадзевіч
Шароў Георг Іванавіч
Шарыпкін Генадзь Леанідавіч
Шаўкера Алег
Шахаб Дар'ян
Шахмуць Ніна Іванаўна
Шашытайшвілі Марыя Уладз.
Шкірманкоў Фелікс Уладзім.
Шошын Руслан Алегавіч
Шупенька Ірына Аляксандр.
Шуткін Сяргей Сяргеевіч
Шчарбіна Святлана
Шчэрба Святлана Мікалаеўна
Шык Кірыл Іванавіч
Шыла Уладзімір Аляксандр.
Шыманіца Ала Іванаўна
Шышкавец Ала Аркадзеўна
Юрэвіч Генрых Іосіфавіч
Язвінскі Артур Аляксандр.
Якубчык Генрых
Яніцкая Мая Міхайлаўна
Ярмалінская Ніна Адамаўна
Ярохаў Уладзімір Пятровіч
Яфімчык Генадзь Генадзевіч
Яцыновіч Святлана

*Навіны Германіі*

# "Самае складанае - арганізаваць час"

## Як школьнікі Берліна навучаюцца дыстанцыйна і абмяркоўваюць каронавірус з настаўнікамі

Зыгрун Дорынг працуе ў нямецкім фондзе "Памяць, адказнасць і будучыня". У межах супольных праектаў не раз прыязджала ў Беларусь. Сям'я Зыгрун жыве ў раёне Кёпенік на паўднёвым усходзе Берліна. Яе малодшы сын, 14-гадовы Бела, вучыцца ў 8 класе гімназіі.

- Адукацыя ў Германіі - справа дэцэнтралізаваная. Кожная федэральная зямля вырашае адукацыйныя пытанні па-свойму, пачынаючы ад падручнікаў і грошай на абеды і заканчваючы навучальным працэсам, - тлумачыць Зыгрун. - У Берліне паралельна дзейнічаюць дзве сістэмы. Пасля малодшай школы - 1-6 класы, дзіця можа паступіць альбо ў гімназію і атрымаць "абітур" (атэстат) праз шэсць гадоў, альбо вучыцца ў Sekundarschule да 13 класа. Праграмы вельмі падобныя. Розніца ў тым, што ў школе меншая нагрузка і больш павольны навучальны працэс.



*Зыгрун Дорынг*

Гімназія Белы побач з домам - на ровары 7-8 хвілін. З 17 сакавіка ён вучыцца дыстанцыйна. У ягоным класе 32 вучні. Усяго ў гімназіі больш за 500 дзяцей.

- За некалькі дзён класная кіраўніца Белы папярэдзіла пра пераход на дыстанцыйнае навучанне, - кажа Зыгрун. - Спачатку заданні дасылалі праз электронную пошту, кожны выкладчык пазначаў тэрмін, да якога трэба выканаць працу. Пасля настаўніца зрабіла кожнаму вучню акаўнт на платформе Lernraum Berlin - "навучальная прастора Берлін". У першы час, калі на платформе быў аншлаг, усё працавала вельмі марудна. Звычайна пляцоўкай карысталіся вучні 11, 12, 13 класаў. Аднак у сувязі з каранавірусам на ёй зарэгістравалі і маладзейшыя класы.

Па большасці прадметаў вучэбны працэс выглядае так: вучань спампоўвае заданні, выконвае іх і да пазначанага тэрміну вяртае настаўніку. Часам дзецям прызначаюць дадатковыя анлайн-актыўнасці па-за платформай.

- Настаўніца французскай мовы зрабіла падборку фільмаў па граматыцы, і заданні трэба было выконваць па праглядзе. Настаўнік гісторыі таксама раіць фільмы, прысвечаныя знакамітым людзям альбо пэўным падзеям, - каментуе Зыгрун.

Па яе словах, шмат залежыць ад асобы выкладчыка. Хтосьці вядзе анлайн-відэазаняткі з усім класам, а нехта дасылае папяровыя заданні ў паштовую скрынку.

Паводле звыклага раскладу, у Белы 6-7 заняткаў. Вучоба пачыналася а 8 раніцы і заканчвалася а 2-й ці 3-й гадзіне па паўдні. Цяпер у Белы ненармаваны графік.

- Спачатку было вельмі няпроста. Сын прасіў сядзець побач з ім і ўвесь час пакідаў убаку сваё асноўнае заданне, - узгадвае суразмоўца. - Усё расцягвалася ў часе. На заданні, якія можна было выканаць за 10 хвілін, трацілася гадзіна. А я не такая строгая, як настаўніца. Цяпер Бела ўжо прызвычаіўся, зрабілася прасцей. Часам падыходзіць да мяне ці мужа, каб мы нешта патлумачылі. Альбо сказалі, што думаем наконт ягонага адказу і ці дастаткова ён напісаў.

Большасць прадметаў на дыстанцыйным навучанні засталіся тыя самыя, што і ў агульнай праграме. Дадаткова Бела вывучае ангельскую і французскую мовы. Змяніўся фармат.

- Дзеці даволі часта некуды выходзілі на тэматычных занятках, - кажа Зыгрун. - Да прыкладу, у Белы цудоўны выкладчык па рэлігіязнаўстве - гэта неабавязковы прадмет, на яго запісваюцца па жаданні. Ён водзіць дзяцей у розныя культавыя ўстановы і знаёміць з асаблівасцямі рэлігій свету. Цяпер дзецям гэтага не хапае.

Па словах Зыгрун, гурткі і дадатковыя заняткі ў Берліне па-ранейшаму не працуюць. Дзеці большую частку дня праводзяць дома.

- Бела любіць быць дома. Каб выцягнуць яго на двор, трэба доўга ўгаворваць. Выязджае на ровары з бацькам і старэйшым братам, які, дарэчы, сам пашыў нам усім маскі.

Бела ўжо можа заставацца дома адзін. Муж Зыгрун працуе дыстанцыйна з дому, яна выходзіць на працу пры патрэбе. За гэты час была ў адпачынку і брала дадатковыя выходныя. Цяжэй бацькам дзяцей малодшых класаў, кажа Зыгрун.

- На працы можна пісаць заяву аб пазачарговым адпачынку, калі трэба застацца дома і клапаціцца пра дзяцей. У садках дзейнічаюць толькі экстранныя групы па доглядзе за дзецьмі, чые бацькі працуюць у жыццёва важных і неабходных цяпер галінах - перадусім медыцыне, транспартнай сферы і сферы паслуг.




*Ілюстрацыйнае фота. План хатняга навучання аднаго з берлінскіх школьнікаў, фота Reuters*

Для дзяцей самае складанае - арганізаваць свой час, упэўненая Зыгрун.

- Яны вымушаныя самастойна займацца. Бела ўсё адкладае на апошні момант і не паспявае. Не можа арганізаваць свой час. Я размаўляла з бацькам аднаго з аднакласнікаў Белы. У іх сям'і практыкуюць заняткі па блоках: блок матэматыкі, нямецкай мовы. Дзень такім чынам структуруецца.

З большага Зыгрун задаволеная, як наладжаны навучальны працэс.

- Мне здаецца, выкладчыкі стараюцца зрабіць лепшае ў гэтай сітуацыі.

Зыгрун расказала, што ў Белы ёсць асобны прадмет - этыка. На ім з дзецьмі абмяркоўваецца ў тым ліку сітуацыя з каранавірусам.

- Выкладчык у заданнях просіць, каб вучань сцісла апісаў, як сябе паводзяць яго бабуля і дзядуля падчас каранавірусу і ці застаецца ён з імі ў кантакце, наколькі ён баіцца, што яны могуць інфікавацца і цяжка захварэць, - кажа Зыгрун. - Дзецям даюць спасылкі на артыкулы па тэме ў часопісе Der Spiegel, з якімі трэба азнаёміцца і зрабіць высновы. Альбо напісаць адказ на выступ, да прыкладу, віца-губернатара Тэхаса Дана Патрыка, які прапанаваў ахвяраваць пажылымі людзьмі на карысць росквіту ЗША.

Сярод заданняў - падрыхтаваць падрабязны спіс аргументаў "за" і "супраць" на тэму "Ці варта ахвяраваць бабулямі і дзядулямі, каб уратаваць грамадства?" Аргументы можна знайсці ў артыкуле, прыдумаць самому альбо знайсці ў дыскусіях у інтэрнэце альбо паразмаўляць з бацькамі.

- Аргументы просяць не проста пералічыць, але і патлумачыць, чаму яны вучня пераканалі ці не пераканалі, - працягвае Зыгрун. - Альбо паразважаць над тэзісамі, кшталту - "дзяржава не мае права ставіць у небяспеку жыццё асобных людзей на карысць большасці. Усё грамадства павінна абараняць старых і слабых, нават калі з гэтай прычыны шмат людзей губляе працу і зарабляе нашмат менш грошай". Альбо - "Калі дзеля абароны асобных людзей ставіцца ў небяспеку грамадства, гэта несправядліва. Мы не павінны дзеля абароны пажылых людзей аддаць на бяздзейнасць усё грамадства".

- У заданнях па этыцы я бачыла такія пытанні: калі хварэюць малады і стары чалавек і няма магчымасці лячыць усіх - як ты лічыш, ці дапушчальна з маральнага пункту гледжання не лячыць старога, а займацца маладым? - прыводзіць чарговы прыклад Зыгрун. - Мне падабаецца, што з дзецьмі гэта абмяркоўваюць, заклікаюць выказваць свае думкі і сачыць за тым, што адбываецца ў грамадстве.

У Берліне ў Белы жывуць бабулі і дзядуля.

- Ён вельмі іх любіць. Не бачыўся з імі ўжо некалькі тыдняў. Вельмі пакутуе ад гэтага. Калі я сказала, што бачылася са сваёй мамай у нядзелю, ён вельмі засмуціўся і сказаў, што гэта несправядліва. Але ён размаўляе з імі праз тэлефон, - кажа суразмоўца.

Зыгрун кажа, што з мінулага тыдня вучні пачалі вяртацца ў школы. Першымі вярнуліся абітурыенты - 12-класнікі ў гімназіях і 13-класнікі ў Sekundarschule, якія рыхтуюцца да экзаменаў. З гэтага тыдня ў Sekundarschule запрасілі і дзявятыя класы, але па строгім рэгламенце.

- У памяшканне яны ідуць паасобку, настаўнік назірае, каб кожны як мае быць апрацоўваў рукі і адразу ішоў у клас. Маскі на занятках можна надзяваць па жаданні, - кажа Зыгрун. - Клас дзеляць на тры групы, і кожная займаецца ў асобным памяшканні. З гэтым пакуль праблемаў няма, бо астатнія класы вучацца дома. Альбо запрашаюць на вучобу праз дзень - па палове класа.

Па словах Зыгрун, берлінская сенатарка па справах адукацыі прапанавала запрасіць у школы тых з сямі- і васьмікласнікаў, хто мае цяжкасці з вучобай, альбо тэхнічныя праблемы, альбо каму абставіны перашкаджаюць вучыцца дома.

- Бацькі адрэагавалі досыць крытычна, і я з імі згодная, што такая сітуацыя можа прывесці да стыгматызацыі сярод вучняў, - дадае Зыгрун. - Таму пакуль меншыя дзеці займаюцца па-ранейшаму дома. Аднак да канца навучальнага года ўсе класы плануюць вярнуць у школу.



*Ілюстрацыйнае фота. Вучні старэйшых класаў у Германіі пачалі рыхтавацца да выпускных іспытаў, 20 красавіка 2020 г.*

Летнія канікулы ў Берліне пачынаюцца 25 чэрвеня.

Зыгрун адзначыла, што на вуліцах Берліна людзей стала трошкі болей. Аднак па-ранейшаму дзейнічаюць абмежаванні: можна гуляць толькі з тымі, хто жыве з табой у адной кватэры. У іншым выпадку - толькі па двое і на адлегласці як мінімум 1,5 метра. Таксама цяпер абавязкова трэба надзяваць маску, калі заходзіш у грамадскі транспарт ці краму.

***ЯШ.***
***Радыё Свабода.***

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

*Віктар Шніп*

# БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## *Балады крыві і любові*

**БАЛАДА МІКОЛЫ ЕРМАЛОВІЧА**
**(29.04.1921 - 5.03.2000)**



Ён праз туман, нібыта праз стагоддзі,
І праз стагоддзі, нібы праз туман,
Ідзе няспешна, як па тонкім лёдзе,
Па нашым свеце, і гучыць сурма
Над ім у небе, і прастор святлее,
Як бездань, у якой наш Боскі дзень
Народзіцца і душы абагрэе
Усім, хто сёння праз зіму ідзе
І ў вечнасці зямной не прападзе,
Бо Ён ідзе праз княствы і праз войны,
Праз дым стагоддзяў і стагоддзяў пыл.

Ён, нібы неба над зямлёю, вольны,
І Ён самотны, як трава магіл,
Дзе нашае змаганне спачывае,
Ды спачывае толькі да пары,
Пакуль хто-небудзь зноў не загукае:
"У рукі, хлопцы, стрэльбачкі бяры!.."
І дойдзе Ён, бо ведае дарогу
Да Беларусі, дзе няма зімы,
Дзе белы снег нібы рамонкаў многа
Яму пад ногі накідалі мы...

*22.03.2006 г.*

**БАЛАДА АЛЕГА ЛУЦЭВІЧА**
**(16.04.1924 - 18.07.2015)**



Майстэрня, як клетка, дзе крылы ламаеш,
Калі замыкаешся ў ёй, каб тварыць
І лётаць над тлумам, з якога ўцякаеш,
Якога, як шэрасці ў кожным двары
Заўсёды хапае, але там ёсць кветкі,
Якія, хто знойдзе, той будзе любіць
Глухія двары і сляпыя палеткі,
Што без васількоў, дзе дарога пыліць,
Дзе ў пыле свая прыгажосць спіць вякамі.
І толькі агню не хапае ва ўсім.
Ты паліш малюнкі свае са слязамі
І ў неба вялізнай карцінаю дым
Ляціць і знікае…
Не знікнуць ніколі
Усе, каго ты палюбіў і расціў,
І ведаў: папера, як белае поле,
Якое, як міннае, трэба прайсці…

*25.01.2019 г.*

**БАЛАДА ВАСІЛЯ БЫКАВА**
**(19.06.1924 - 22.06.2003)**



Ён вярнуўся дамоў, каб памерці,
Як спазнаныя словы сказаць,
Што няма і не будзе нам смерці
І не трэба па ім сумаваць,
Як па хмарах дажджы не сумуюць,
А ідуць, нібы вечнасць, дажджы,
За якімі ўсе душы начуюць
Покуль мы не адчуем душы
У сваім аграхоўленым целе,
Што як сон, да якога ісці
Па дарозе не ўсім зразумелай,
Як агню - па апалым лісці…
Ён вярнуўся дамоў, каб не ўмерці,
Як вяртаюцца ў неба дажджы,
Бо няма нараджэння і смерці,
Як Хрыста ўжо няма на крыжы…

*11.06.2003 г.*

**БАЛАДА КАСТУСЯ АКУЛЫ**
**(16.11.1925 - 29.01.2008)**



Далёка Радзіма, як зорка Венера,
Якая заўсёды ўначы прад вачыма
Была, і ў душы не цямнілася вера,
Што з карты Еўропы не знікне Радзіма,
Бо там ёсць каму за Радзіму змагацца,
Калі да змагання яна нас пакліча.

У небе не зоры, а іскры мігцяцца
Ад нашага вечнага крыўскага зніча,
Які мы нясём праз вятры і стагоддзі,
Каб светла было нам на нашай зямлі,
Каб жыў наш народ, не знікала ў народзе
Любоў да свайго і да тых, што жылі,
Каб вечна жыла і квітнела Радзіма,
Бо толькі Радзіма нам шчасце дае
Глядзець на Радзіму душою-вачыма
І бачыць і ў шчасці, і ў горы яе…
І ты застаешся з Радзімай хоць сёння
Далёка яна, нібы зорка Венера.
І крыж твой схіляецца ў светлым паклоне
У бок Беларусі, што верыла й верыць
Сынам, што любілі і любяць яе
Да смерці, аддана й без меры…

*2.03.2008 г.*

**БАЛАДА СВЯТАРА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА**
**(8.08.1926 - 15.04.2015)**



Царква, як беларускі карабель,
Што ў Лондане спыніўся, каб святлом
Папоўніцца, і тысячу нядзель
Пад адзінокім сонца і дажджом
Ужо стаіць, збіраючы людзей,
Што помняць белы край, дзе Бог жыве
І будзе жыць, каб там было святлей
І не знікалі замчышчы ў траве.
І ты з царквы, нібыта капітан,
Глядзіш удалеч, дзе твой родны край
Шчэ свеціцца самотна праз туман,
І там зямны твой і жаданы рай,
Куды душа імкнецца і ляціць,
Як матылёк да мройнага агню.
Табе заўсёды гэты рай любіць,
І слухаць, як малітву, цішыню,
І верыць - беларускі карабель
Да Беларусі вольнай даплыве
І не таму, што тысячы нядзель
Міне, а проста - Беларусь жыве…

*16.04.2015 г.*

**БАЛАДА АЛЕСЯ АДАМОВІЧА**
**(3.09.1927 - 26.01.1994)**

Не думаць пра сябе нідзе, ніколі
І роднае нікому не аддаць.
Айчына ёсць, калі ў яе ёсць воля,
Нібыта жыватворная вада.

Не спіш ізноў - баліць душа і плача,
Што ўсё не так і сіл не маеш ты,
Каб перайначыць люд, які ты бачыш.
А люд, як лёд, халодны, не святы,
Але святым, каб быў ён тут - не трэба.

Героі - мёртвыя, ім не да нас
І мы глядзім на іх і бачым неба,
Дзе сонца, нібы залаты абраз
У храме нашым, у якім ты вечны,
Як і малітвы ўсе за родны край,
Каб быў, як сонца ў небе, незалежны,




І лепшага не знойдзеш, не шукай
Такога краю анідзе, ніколі.
Ты ў ім застаўся, як у жылах кроў
Жывога воя, што жыве і волю
Нясе ў сабе, бо з воляю прыйшоў…

*30.09.2007 г.*

**БАЛАДА ІВАНА КОЗЕЛА**
**(21.05.1928 - 30.01.1970)**



У кожным родным слове
прыгажосць і сіла,
І ў кожным слове кветка-папараць цвіце.
І нельга жыць самотна і зусім бяскрыла,
Нібыта ў садзе маладым, сярод дзяцей
Цікаўных і наіўных, для якіх Айчына
Яшчэ пакуль не стала вечнай і святой,
Як для цябе, якому слова, нібы гліна,
З якой ствараеш свет асветлены слязой
Людской і ўсмешкай
беларускай шчырай, ветлай…

І ты глядзіш спакойна ў вочы дзетвары,
Нібы ў люстэрка,
бо ў душы сягоння светла
Ад студзеньскага снегу на тваім двары,
Што хутка замяце і за табой дарогу,
Якую ты, як толькі мог прайсці, прайшоў,
Каб заўтра расказаць пра беларусаў Богу,
Пра кветку-папараць і пра сваю любоў
Да родных ніў, да слова,
што прыйшло ад маці,
Ад тых людзей, якія за бацькоўскі кут
Загінулі, каб, нібы папараць, мы шчасце
Знайшлі ў Айчыне і сказалі:
"Шчасце тут!"

*13.12.2008 г.*

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Таварыства беларускай школы на лаве падсудных

Каля поўначы 4 лютага, у Вільні закончыўся працэс над Таварыствам беларускай школы які меў яркую палітычную афарбоўку, працэс гэты цягнуўся два дні. На лаве падсудных сядзелі члены галоўнай управы: адвакат Фелікс Стацкевіч, вядомы ў Вільні кіраўнік беларускіх музычных калектываў і грамадскі дзеяч Рыгор Шырма, былы настаўнік Віленскай беларускай гімназіі Пяткевіч і тры маладыя беларусы, якія толькі нядаўна пачалі працаваць ва ўправе, замяніўшы вышэйназваных арыштаваных асоб.

Вялікі, надрукаваны на 40 старонках акт абвінавачвання, ставіў у віну падсудным антыдзяржаўную дзейнасць камуністычнага характару і атрыманне грошай падазронага, падобна камуністычнага, паходжання. Акрамя іншага, пракурор для абвінавачвання ўжываў артыкулы з савецкай прэсы, а таксама беларускага часопіса "Барацьба", які выдаецца ў Берліне. Гэтая прэса вельмі часта выкарыстоўвала непрыхільнасць польскіх уладаў да Таварыства і з прапагандысцкімі мэтамі баранiла яго, каб паглыбіць незадавальненне польскай нацыянальнай палітыкай.

Сведкі абвінавачвання не мелі сур'ёзных фактаў супраць членаў галоўнай управы, а сведкі з боку абароны, цвердзілі, што Таварыства беларускай школы - гэта культурна-асветная пляцоўка, і яе ўправа не займаецца палітыкай. Яны чорнымі фарбамі малявалі стаўленне ўладаў да беларускага школьніцтва і казалі пра скасаванне беларускіх школ.

Абаронцы абвінавачаных членаў управы ў асобах адвакатаў Пятрусевіча і Заштаўт-Сукенніцкай даводзілі, што ТБШ з'яўляецца выключна культурна-асветнай пляцоўкай, мае заслугі ў справе асветы і калі камуністычны элемент калі-нікалі і пранікаў у яго некаторыя вясковыя арганізацыі, гэта было цалкам зразумелым і непазбежным з-за вялікай колькасці членаў арганізацыі і з-за таго, што камуністы заўсёды робяць высілкі, каб мець уплыў ва ўсіх арганізацыях. Аднак, гэта не значыць, што кіраўніцтва Таварыства ў асобах трох абвінавачаных, паддалося гэтаму ўплыву ці выкарыстоўвала забароненыя грашовыя сродкі.

Усе абвінавачаныя не прызналі сваёй віны.

4 лютага быў вынесены вырак Акруговага суда ў Вільні, па якому ўсе тры члены ўправы прызнаны невінаватымі, а абвінавачаныя Саковіч, Цэрах і Скурко (верагодна Максім Танк - *Л.Л.*) атрымалі ад 2 да 3 гадоў вязніцы.

Працэс узбудзіў вялікую цікавасць да пытання: ці кіравалі ТБШ з-за кулісаў нейкія асобы, ці выкарыстоўвалася Таварыства для пазастатутных мэтаў, ці ёсць яно пляцоўкай, якая адпавядае сваёй назве.

Калі зважаць на тое, што прыгавораныя на судзе асобы кіравалі Таварыствам кароткі час і былі пакараны, а члены ўправы апраўданы, становішча зразумелым, што кампанія, якая здаўна вядзецца супраць ТБШ, з'яўляецца тыповай работай польскіх нацыяналістаў, якія ўсімі сродкамі ваююць супраць беларускага школьніцтва. Дастаткова прачытаць загалоўкі ў "Слове" ці "Дзённіку Віленскім" пра ходу працэсу, каб зразумець, якімі сродкамі ваююць у нас з нямілымі для нацыяналістаў няпольскімі арганізацыямі.

Даўно вядома, што беларускі рух у выніку савецкай палітыкі фарсаванага развіцця нацыянальных моў у сваіх рэспубліках і з-за браку сярод беларусаў заможнага гарадскога класа, мае вельмі радыкальны характар. Гэты радыкалізм разам з пачуццём сваёй нацыянальнай асобнасці бальшавікі ўмела супрацьпаставілі ненармальнай польскай нацыянальнай палітыцы. Менавіта гэта палітыка давяла да таго, што беларуская інтэлігенцыя, якая задае тон палітычнаму жыццю і ў сваёй большасці адмоўна ставіцца да самога савецкага ладу, тым не менш прыхільна і з зацікаўленасцю прыглядаецца да культурных дасягненняў Савецкай Беларусі. Такое стаўленне беларусаў у Польшчы дае повад тым, хто варожа і непрыхільна ставіцца да іх, абвінавачваць беларусаў у нелаяльнасці да Польшчы. Амаль што кожны часопіс ці беларуская арганізацыя, не выключаючы і клерыкальныя, працуе пад пагрозай абвінавачвання ў антыдзяржаўнай дзейнасці, такія абвінавачванні часцей за ўсе ідуць ад польскіх нацыяналістаў і прыводзяць яны да вышукванняў памылак і судовага пераследу.

Відочна, што гэтага лёсу не магло ўнікнуць і Таварыства беларускай школы. Гэта вялікая арганізацыя непакоіла ўсіх тых, хто дыскрымінацыю беларусаў лічыць падмуркам сваёй нацыянальнай палітыкі. А ў беларускіх сферах, нягледзячы на сталыя сваркі паміж сабой, не было выпадку каб якая небудзь палітычная група ці асоба, выступіла супраць дзейнасці ТБШ. Такое становішча цалкам зразумелае, калі ведаць гісторыю ТБШ.

Таварыства беларускай школы паўстала ў 1921 г. высілкамі беларускіх дзеячаў з рознымі палітычнымі перакананнямі, не выключаючы і ксяндзоў. Новы статут 1926 г. пашырыў дзейнасць ТБШ ад Віленскага ваяводства на ўсю дзяржаву. Мэты былі і засталіся выключна культурна-асветніцкія, а менавіта: закладанне школ, арганізацыя чытальняў, бібліятэк, народных дамоў і тэатраў і г. д. Усе чатыры беларускія гімназіі, якія раней існавалі, былі заснаваны ТБШ і, пераважна, экіпіраваны яго коштам. У часы, калі гімназіі знаходзіліся пад пратэктаратам ТБШ, іх закончыла 200 чалавек а вучылася каля 3 000.

Адкрыццё Таварыствам агульнаадукацыйных беларускіх школ сутыкнулася з незвычайнымі перашкодамі. Уся ініцыятыва як ТБШ, гэтак і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, была паралізаваная праз фармальнасці, як напрыклад патрабаванні пэўнай кваліфікацыі настаўнікаў, пасведчанняў аб іх лаяльнасці ці наяўнасці адпаведных школьных будынкаў і г. д.

З моманту прыняцця моўнага закона, з 31 ліпеня 1924 г., Таварыства пачало неверагодна шырокую акцыю збору дэкларацый аб адкрыцці беларускіх агульнаадукацыйных школ. Вынікі гэтай акцыі - самая ганаровая старонка ў гісторыі ТБШ. Згодна з дадзенымі Таварыства, у 1926 г. школьным уладам ад беларускіх паветаў было пададзена 9 407 дэкларацый з подпісамі бацькоў на 13 809 дзяцей. Рэальна, было гэтых дэкларацый значна больш, бо значная іх частка ішла не праз ТБШ і арганізацыя пра іх не ведала. Гэтыя дэкларацыі былі настолькі цікавымі, што іх пачалі … фальшаваць. У надзеі, што бацькі не заўважаць падлог, з'явіліся бланкі дэкларацый на беларускай мове, але з патрабаваннем адчыніць школу на дзяржаўнай мове. На такую вуду спрабавалі лапаць сялян, і што дзіўна, гэты метад пачало выкарыстоўваць польскае настаўніцтва (вёска Жухавічы Стаўпецкага павета). Справа гэта ў свой час патрапіла ў Сейм. Як вядома, жаданне Таварыства пакрыць наш край сеткай беларускіх школ не спраўдзілася. Па-праўдзе, школьныя ўлады адчынілі каля 20 беларускіх школ і каля 40 утраквістычных, але хутка іх пазачынялі, і пра гэтыя школы зараз нічога не чутно.

Акрамя школ, ТБШ заклала шмат чытальняў, бібліятэк і пабудавала ўласныя будынкі для народных дамоў.

У час найбольшага ўздыму, Таварыства мела каля 20 000 членаў. З-за таго, што гэтая арганізацыя была вельмі папулярнай, некато-рыя палітычныя партыі і асабліва камуністы, заўсёды стараліся мець сваіх людзей у ёй. Гэта давала ўладам прычыну для ўмяшання і паралізавання дзейнасці ТБШ. Эпілогам гэтага ўмяшання ёсць апошні судовы працэс. Нягледзячы на жаданне нядобразычліўцаў і насуперак пракурору, суд выявіў, што кіраўніцтва Таварыства беларускай школы знаходзілася ў руках людзей, не заангажаваных у камуністычную працу. Аднак, калі разам з членамі Галоўнай управы на лаву падсудных пасадзілі асоб, якія не гралі ніякай ролі ў жыцці Таварыства ці нават асобу, якая наогул не мела нічога агульнага з Таварыствам (Скурко), дык гэта не значыць, што арганізацыя была пад уплывам гэтых апошніх. Судовы вырак, датычны кіраўніцтва, пацвердзіў апалітычнасць Таварыства, ачысціў яго ад няслушных закідаў і даў магчымасць і далей ісці па шляху народнай асветы.

Таварыства беларускай школы прайшло цяжкімі каляінамі лёсу і выказала надзвычай годную вывучасць. Апошнім часам, дзякуючы больш талерантным адносінам Беластоцкага ваяводы, у працы ТБШ на тэрыторыі гэтага ваяводства зноў пачалося немалое ажыўленне. Трэба чакаць, што пасля апошняга судовага выраку, раней ліквідаваныя ці прымушаныя да канспірацыі колы ТБШ у іншых ваяводствах адновяць легальную працу ў межах статута. Трэба толькі, каб Галоўная ўправа змагла кіраваць гэтай працай, а беларускае грамадства, нягледзячы на розныя палітычныя перакананні, і надалей захоўвала прыхільнасць да гэтай заслужанай беларускай арганізацыі. Аднак галоўнае - каб адміністрацыйныя ўлады не перашкаджалі працы Таварыства. Пераслед і адміністрацыйны ціск прымусяць да канспірацыі, якая створыць спрыяльную атмасферу для камуністаў.

*S-wicz. (Антон Луцкевіч).*

Towarzystwo Szkoly Bialoruskiej na lawie oskarzonych // Preglad Wilenski. 1933. № 3. S. 2 - 4.

*Пераклад*
***Леаніда Лаўрэша.***

**Ад перакладчыка.**

Дадам яшчэ трошкі матэрыялаў пра ТБШ.

**Антон Шукелойць:** *"ТБШ - гэта старая беларуская арганізацыя, закладзеная яшчэ ў 20-х гадах. Старшынямі яе былі людзі розных палітычных перакананняў. Быў нейкі час Тарашкевіч, быў нейкі час ксёндз Адам Станкевіч, здаецца, Астроўскі. Словам, у выніку росту Грамады, ТБШ (якое ў Грамадзе прадстаўляла культурную частку Грамады, школьніцтва перадусім) разраслося несамавіта, і тады, калі ліквідавалі Грамаду, ліквідавалі адначасна і ТБШ. Тады ТБШ зайшло зусім у тупік, асабліва ў 30-я гады. Не ведаю, бо гэта яшчэ перада мной было (як я паступіў на ўніверсітэт), але нехта з дзеячоў ТБШ, магчыма, нават і Шырма, звярнуўся да Беларускага студэнцкага саюза, каб яны ім дапамаглі. Таму ў некага там думка паўстала, што такую заслужаную арганізацыю, якая ў розныя часы мела сваімі старшынямі такіх выдатных людзей, як Тарашкевіч, ксёндз Станкевіч, не можна страціць. Звярнуліся да Беларускага студэнцкага саюза, і Саюз выслаў групу студэнтаў (гэта Шчорс, Вайтэнка, Аўген Аніська). Гэтыя студэнты ўвайшлі ў галоўную ўправу (значыць прынялі ўдзел у выбарах) і аднавілі ТБШ, надалі яму зноў нацыянальны характар, бо яна ўжо мела такі характар прабальшавіцкай арганізацыі. Абнавілі арганізацыю і выбралі на старшыню вельмі такога салiднага адваката Стацкевіча (стары дзеяч, яшчэ з "нашаніўскіх" часоў, які карыстаўся павагай усіх беларусаў). Заступнікам старшыні быў Тумаш.*

*Часта Вітаўту Тумашу закідалі, што ён нібыта быў з бальшавікамі, што ён быў радыкальна левы чалавек. Гэта няпраўда. Ён ніколі ня быў радыкалам. Сакратаром ТБШ, дарэчы, стаў Шырма.*

*Перамены засведчылі, што ТБШ нібы працягвае старыя традыцыі беларускай культурніцкай арганізацыі, а з другога боку, што нібы не адарвалася ад Грамады; што яна, у параўнанні з Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры (створаным хадэкамі), на чале якога стаяў ксёндз Гадлеўскі, ёсць арганізацыяй такой лявейшай.*

*Яны пачалі працу сваю вельмі актыўна. Выдалі адмысловы ліст у змаганні за беларускую школу, які падпісала ТБШ і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. Гэты ліст разышоўся шырока па ўсёй заходняй Беларусі. З ім ішлі ў старостывы са змаганнем за беларускае школьніцтва. Гэта апошняя моцная акцыя была дзвюх заслужаных беларускіх культурніцкіх арганізацыяў. У выніку гэтага ўсяго іх потым палякі абедзве разам і зачынілі (па-мойму, у 1937 годзе)".*

**Зянон Пазняк.** *Гутаркі з Антонам Шукелойцем. 2003.*

**Арэхва Н.С.:** *"Таварыства беларускай школы налічвала ў канцы 20-х гадоў некалькі соцень гурткоў і больш за 15 тысяч сяброў, ў 1934 году моцна пацярпела ад рэпрэсій і ледзь налічвала паўсотні гурткоў, большасць якіх знаходзілася ў беларускіх паветах Беластоцкага ваяводства. У Беластоку яшчэ дзейнічалі адзіная захаваўшаяся акруговая ўправа ТБШ і беларускі кніжна-выдавецкі кааператыў "Сяўба", які налічваў некалькі дзясяткаў сяброў. У Вільні захавалася Галоўная ўправа ТБШ.*

*Рэалізуючы лінію ЦК, краёвай сакратарыят працягваў выкрываць Галоўную ўправу як нацыяналістычную і варожую нам, імкнучыся ізаляваць яе ад нізавых гурткоў. На пачатку чэрвеня мы спрабавалі склікаць беластоцкі акруговы з'езд ТБШ з запрашэннем на яго дэлегатаў ад гурткоў іншых ваяводстваў Заходняй Беларусі з тым, каб перватварыць Беластоцкую акруговую ўправу ў фактычны цэнтр ТБШ. Але ўлады забаранілі дзейнасць акруговай управы і не дазволілі склікання акруговага з'езда. Аднак у Беластоку засталася "наглядная рада" акруговай управы ТБШ. Пры дапамозе яе мы спрабавалі сёе-тое рабіць. Аднак перетварыць яе ў кіруючы цэнтр ТБШ, каб супрацьстаяць Галоўнай управе, было справай нерэальным, хоць мы першапачаткова і мелі ў гэтым сэнсе сякія-такія ілюзіі.*

*Тым часам Галоўная ўправа намецiла скліканне з'езда ТБШ у Вільні на 17 чэрвеня 1934 гады. Мы ... абмеркаваўшы становішча, далі ўстаноўку прыняць актыўны ўдзел у з'ездзе і, абапіраючыся на спачуваць нам дэлегатаў, выказаць недавер Галоўнай управе і выбраць новую. [...]*

*Беларуская буржуазныя нацыяналісты паднялі антысавецкую шуміху. Яны ва ўвесь голас крычалі, што Масква знішчае беларускую інтэлігенцыю ў БССР, а агенты КПЗБ выганяюць яе з усіх нацыянальна-вызваленчых арганізацый у Заходняй Беларусі. Адсюль яны зрабілі выснову: інтэлігенцыі з камуністамі не па дарозе. І сапраўды, некаторая частка інтэлігенцыі шукала кампрамісу з урадам на аснове "чыста культурнай працы" і адышла ад нацыянальна-вызвольнага руху. [...]*

*Галоўная ўправа ТБШ выдавала свой орган "Летапіс", але мы тады (1934 - першая палова 1935 гадоў), на жаль, лічылі яго нацыяналістычным і не супрацоўнічалі з ім. Нашы легальныя магчымасці ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху надзвычай звузіліся. Такое становішча працягвалася да восені 1935 года.*

*Ажыццяўляючы лінію партыі на стварэнне антыфашысцкага народнага фронту, мы спынілі напады на Галоўную ўправу ТБШ і аднавілі з ёй дзелавое супрацоўніцтва. У яе склад тады ўваходзілі: С.К. Паўловіч, Ф. І. Стацкевіч, Г.Р. Шырма, М.І. Пяткевіч, Н.М. Марцінчык, М.І. Кепель і Ф.П. Кізевіч. З дапамогай Р. Шырмы і М. Танка мы пачалі сумесна выдаваць газету "Наша воля". Гэта спрыяла некаторам ажыўленню беларускага нацыянальна-вызвольнага руху ў 1936 годзе.*

**Орехво Н.С.** *Дела и люди КПЗБ. Воспоминания. Минск, 1983.*



# Эксперыментальныя пошукі лекаў і вакцыны па ўсім свеце

У цяперашні час у свеце праводзіцца больш за 100 даследаванняў у мэтах пошуку лекаў ад каронавіруса і прафілактыкі заражэння. Адначасова вядуцца распрацоўкі вакцыны ад COVID-19.

**Поспехі амерыканскіх навукоўцаў**

Федэральнае кіраванне ЗША па кантролі за лекамі і прадуктамі (FDA) у экстранным парадку ліцэнзавала прымяненне прэпарату Remdesivir для лячэння хворых COVID-19 у цяжкім стане. Рашэнне грунтавалася на выніках даследавання, якое паказала, што частка хворых, якія атрымлівалі гэтыя лекі, вылечылася ад каронавіруса.

Антывірусны прэпарат Remdesivir запавольвае пранікненне віруса ў здаровыя клеткі, што перашкаджае размнажэнню інфекцыйнага агента. Калі вірус спрабуе стварыць мноства ўласных копій, лекі парушаюць гэты працэс. Вытворца прэпарата - кампанія Gilead Sciences Inc. - прадэманстравала, што Remdesivir эфектыўны і пры іншых каронавірусных інфекцыях, такіх як SARS і MERS.




Ліцэнзія FDA, якая звычайна выдаецца праз шмат месяцаў пасля клінічных выпрабаванняў, была выдадзена ў экстранным парадку пасля таго, як папярэднія вынікі даследаванняў пад эгідай адміністрацыі ЗША, паказалі, што Remdesivir скарачаў час выздараўлення на 31% (у сярэднім - на 4 дні) у стацыянарных хворых з цяжкім ходам COVID-19.

Д-р Энтані Фаўчы, які ўзначальвае нацыянальны інстытут аховы здароўя і які з'яўляецца кансультантам прэзідэнта па пытаннях каранавіруса, заявіў, што прэпарат увойдзе ў новы стандарт лячэння хворых COVID-19.

У той жа час, іншы прэпарат гідраксіхларахін, на які спадзяваліся, аказаўся неэфектыўным ў паляпшэнні стану хворых.

**Дасягненні вучоных Ізраіля**

У інстытуце біялагічных даследаванняў у Нес-Цыёне ў Ізраілі паведамілі аб атрыманні першага працоўнага ўзору прэпарату ад каронавіруса.

У сумеснай заяве інстытута і міністэрства абароны Ізраіля сцвярджаецца, што прэпарат працуе і як вакцына, і як лекі, прыгнятаючы каронавірус ў арганізме хворага чалавека.

Монакланальные антыцелы (антыцелы, якія выпрацоўваюць імунныя клеткі), пакладзеныя ў аснову прэпарату, былі атрыманы з плазмы крыві жывёл і людзей, якія перахварэлі каронавірусам. Клінічныя выпрабаванні паказалі высокую эфектыўнасць прэпарату.

Міжнародная група навукоўцаў у ходзе эксперыментаў, праведзеных у Утрэхтскім ўніверсітэце, знайшла монакланальныя антыцелы, якія змаглі ў лабараторных умовах адолець COVID-19. Артыкул аб сваім даследаванні навукоўцы апублікавалі 4 траўня ў навуковым часопісе Nature Communication.

**Дапамагчы выздаравець бліжняму**

Мітрапаліт Менска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч запрасіў тых, хто перанёс каронавірусную інфекцыю, стаць донарамі крыві, якая можа стаць паратункам для цяжкахворых на каронавірус.

- Калі так сталася, што вы захварэлі, але з Божай дапамогай і дзякуючы ахвярным высілкам медыкаў вылечыліся ад гэтай небяспечнай хваробы без цяжкіх наступстваў для здароўя, досвед вашага цярпення можа прынесці вялікую карысць іншым людзям, -адзначыў іерарх Каталіцкага касцёла. - У арганізме чалавека, які перахварэў нейкай вострай віруснай ці бактэрыяльнай інфекцыяй, імунная сістэма выпрацоўвае супраць патагена антыцелы - спецыяльныя бялкі, якія дапамагаюць змагацца з інфекцыяй і не захварэць на яе паўторна пэўны час (у выпадку з некаторымі хваробамі - нават усё жыццё).

Аналагічным чынам працуюць і вакцыны: калі мы робім прышчэпку, антыцелы да кампанентаў мікраарганізмаў выпрацоўваюцца нават без факту самога захворвання.

Мы пакуль што не ведаем канкрэтна, як чалавечы імунітэт адказвае на новы каранавірус COVID-19, бо жывём у век доказнай медыцыны, калі для дакладнага сцвярджэння патрэбныя пэўныя час і высілкі правядзення шматлікіх даследаванняў. Але медыкі сведчаць, што гэты новы вірус прынцыпова не адрозніваецца ад сваіх больш бяспечных для чалавека "суродзічаў": як і іншыя каронавірусы, ён павінен выклікаць імунны адказ.

На сёння ад COVID-19 пакуль няма вакцыны. Фактычна, нашыя медыкі гераічна змагаюцца за жыццё хворых з адзінай мэтай: максімальна падтрымліваць іх жыццёва важныя органы, пакуль арганізм не выпрацуе ўласныя антыцелы.

Любыя браты і сёстры ў Хрысце! Я заклікаю вас выканаць запаведзь любові да бліжняга і дапамагчы іншым хворым, калі вы самі нядаўна перанеслі пацверджаны выпадак COVID-19. У вашай крыві знаходзяцца каштоўныя антыцелы, якія нашы прафесійныя медыкі могуць з яе выдзеліць.

Вашымі антыцеламі будуць эксперыментальна лячыць іншых, цяжкахворых людзей. Наколькі вынік лячэння будзе эфектыўным, медыкі скажуць, калі пандэмія скончыцца. Але дайце іншым цяжкахворым прынамсі гэты шанец!

***Падрыхтавала Э. Оліна.***

# Плакатам - па каронавірусу




Наваградская раённая арганізацыя ТБМ “Узвышша” выдала антывірусны плакат. Плакат беларускамоўны, наклад 1500 асобнікаў. Для Наваградчыны гэта замнога, таму плакат ужо пайшоў на Нясвіжчыну, Лідчыну, магчыма, пойдзе яшчэ куды.

Плакаты выпускаліся для таго, каб іх развесілі ў кожным публічным месцы, у кожным пад'ездзе, на кожнай прахадной, на заводах і прадпрыемствах, у школах і ўстановах, усюды, дзе ёсць людзі.

Са свайго боку, ТБМ “Узвышша” дзякуе Моладзеваму блоку за дапамогу з друкам у Менску.

***Наш кар.***

# Па каронавірусу - экспромтам



Ах, ты, гад, каронавірус!
На якім ты полі вырас?
Во, нам толькі не хапала
Яшчэ гэтакай навалы....
То Кітай усім адразу
Падлажыў сваю заразу,
А цяпер во баба Тома
Толькі знае - сядзіць дома ....
Дзеці носяць мне яду,
Можа, як не прападу.....
Я рэцэпт народны дам:
Налівай сабе 100 грам,
Далей сала з часныком,
Далей - булку з малаком.
І ніякая зараза
Не прычэпіцца ні разу!!!

**Баба Тома. Экспромт.**
**(Тамара Цыганкова, г. Магілёў.)**

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:*** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі “Выдавецкі дом ТБМ”.
Газета падпісана да друку 11.05.2020 г. у 17.00. Замова № 897.
Аб’ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,61 руб., 3 мес.- 7,83 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.